# Урок дабрачыннасці

Група беларускіх дзяцей ва ўзросце ад 8 да 12 гадоў сёлетняй вясной гасціла ў Італіі. Як сведчыць дакумент, яны выехалі туды па запрашэнні Мальтыйскага ордэна і асацыяцыі «Віладжыо СОС Рома» — дабрачыннай міжнароднай арганізацыі, якую курыруе графіня Імаколята Соляра дэль Барго.

Паездку арганізавалі касцёл св. Сымона і Алены г. Менска (настаяцель Уладзіслаў Завальнюк) і Беларускі камітэт «Дзеці Чарнобыля» БНФ «Адраджэньне» (адказная Валянціна Трыгубовіч). Маршрут падарожжа — Кіеў, Будапешт, Вена, Рым.

Групу прывезлі ў вясковы сямейны дзіцячы дом, які знаходзіцца пад апекай дабрачынных арганізацый і прыхаджан. Вёска — тузін утульных катэджаў, дзе ўсё прыстасавана для жыцця і выхавання сірот,— вольна раскінулася на зялёных лугавінах у засені кедраў і пальм. Нашы дзеці займалі ў ёй тры будынкі са спальнымі пакоямі, заламі для заняткаў і гульняў, гасцявым офісам, дапаможнымі памяшканнямі.

Група, аб якой ідзе размова, была тут не першая і не апошняя. Непадалёку ад Рыма, у Віесце і Санта-Марынэле, таксама жывуць беларускія дзеці. Знаходзяцца яны і на ўзбярэжжы мора.

Усе дзеці праходзяць праверку на ўзровень радыяцыі і хранічныя захворванні, атрымліваюць экалагічна чыстае харчаванне (пераважна фрукты і сокі), а ў вольны час ездзяць на экскурсіі, вучацца і забаўляюцца. У нашай вёсцы клопаты аб матэрыяльным забеспячэнні дзяцей ляжалі на графіні Соляры.

Былі яшчэ групы падтрымкі: адна ад дырэктара «Віладжыо СОС» Антонія Фіёрэ, а другая ад так званага «Ротары клуба»,— умоўна назавём яе групай П'еро Какачэ па імені самага любімага сябра дзяцей.

Гэтыя групы забяспечвалі дабрачынныя акцыі, праводзілі экскурсіі ў Рым, на мора і на лецішчы. Камера фотаапарата зафіксавала многія моманты з цікавых падарожжаў.

Беларускія дзеці ўвесь час былі ў цэнтры ўвагі многіх людзей. Да іх прыходзілі педагогі, музыканты, мастакі, каб пазаймацца італьянскай мовай, маляваннем, навучыць майстэрству ікебаны, розным гульням. Многія з іх цікавіліся здароўем дзяцей, іх здольнасцямі і інтарэсамі, ну і, вядома ж, песцілі малых — адорвалі ласункамі і сувенірамі. Дзецям прыкупілі адзенне, бялізну, школьныя прылады, рэчы туалету, цацкі. Найбольш было радасці ад джынсавых касцюмаў і ад таго, чаго ў іх не было дома.

6 мая перад саборам св. Пятра ў Рыме група сустрэлася з Папай Янам Паўлам II. Яны сфатаграфаваліся разам, выслухалі прывітанне свяцейшага на роднай мове. На другі дзень тэкст выступлення Папы быў надрукаваны ў газеце на дзвюх мовах — беларускай і італьянскай:

**«Дарагія беларускія дзеці!**

**Рады вітаць Вас тут, у Вечным Горадзе. Хай знаходжанне ў Італіі дасць Вам духоўную сілу. Запэўніваю Вас аб сваіх малітвах і надзяляю асаблівым благаславеннем, якое я пасылаю на ўсіх дзяцей і іх сем'і».**



НА ЗДЫМКУ: благаславенне Папы **ЯНА ПАЎЛА II.**

Асобна некалькі слоў пра П'еро Какачэ. Ён зрабіў, на маю думку, нешта вельмі важнае для дзяцей. Мяркуйце самі.

**З апавядання Ілоны А., 9 гадоў, пра іх першае знаёмства:**

— *Мы некуды ішлі. Раптам з'явіўся П'еро — у акулярах і вясёлы. Стаў раздаваць сувеніры — пушысценькіх мядзведзікаў са сцяжкамі... Мне не хапіла, і я пакрыўдзілася, засталася ззаду. Іду сабе адна. П'еро гэта ўбачыў, падышоў, узяў за руку і пажартаваў: «Вось зараз цябе забяру і пастаўлю дома на тэлевізар, як ляльку». А на другі дзень ён прынёс мне ляльку Рафаэлю.*

Дзецям святочна запомніўся Рым: старажытны Калізей, ватыканскі сад з вышыні купала сабора св. Пятра, фантаны і плошчы горада.

— *Мы ехалі ў Рым, і мяне закалыхала... Хоць і захварэла, але не захацела заставацца ў аўтобусе, пайшла з усімі. Ісці было цяжка, ногі падкошваліся, і П'еро пасадзіў мяне сабе на плечы. І ў Калізей так нёс, і з Калізея. Потым, як ездзілі, заўсёды мне купляў лімоны, прымушаў смактаць у дарозе.*

Незадоўга да ад'езду дзяцей з Італіі П'еро і Эльвіра Какачэ прымалі іх у сваёй сям'і.

— *Было весела. Кожны рабіў, што хацеў. Яна, Лена і Каця ігралі на раялі. П'еро пажартаваў: «Хто на ім добра сыграе, таму яго аддам». Хлопчыкі займаліся сінтэзатарамі, што ім падарылі,— выпрабоўвалі клавішы. А я пахадзіла па балконах — па вялікім і па вузкім, агледзела пакоі. За сталом нас пачаставалі. Сеньёра Эльвіра раздала падарункі для нашых мам, а П'еро начапіў кожнаму на руку срэбны бранзалет. Імянны. На ўспамін.*

Пасля развітальнай вячэры ў вёсцы напярэдадні ад'езду дадому дзеці атрымалі ад П'еро лісты:

**«Дарагія дзеці** (упісана імя дзіцяці). **Пішу вам некалькі радкоў, каб сказаць, што хутка вы ад'язджаеце і, можа быць, мы доўга не ўбачымся. За час, які былі мы разам, я так палюбіў вас. Кожны назаўсёды застанецца ў маім сэрцы. І я хацеў бы, каб вы бачылі ва мне старога сябра, да якога можна заўсёды звярнуцца з любой праблемай. Паведамляйце мне пра сябе, што вы робіце, што вас хвалюе. Я буду па-сапраўднаму шчаслівы атрымліваць ад вас лісты. Што да мовы, дык не хвалюйцеся: калі зможаце, пішыце па-англійску або, яшчэ лепш, па-французску; калі ж не — дык пішыце на вашай мове. Я папрашу айца Франца перакладаць мне вашы пісьмы, а за гэты час пастараюся вывучыць вашу мову.**

**У падарунак даю два банкноты... Можаце купляць за гэтыя грошы канверты, калі захочаце мне пісаць лісты.**

**У сярэдзіне ліпеня я спадзяюся, што прыеду ў Менск, калі Бог дазволіць, і ў гэтым выпадку вельмі хацеў бы пабачыць вас усіх. Прашу Бога і нашу Маці Нябесную зберагчы і благаславіць Вас, і быць з Вамі побач усё ваша жыццё. Абдымаю вас вельмі, вельмі сардэчна. П'еро. Рым, 18 мая, 1992 г.».**

Дзеці вярнуліся дадому. Сустрэліся з сябрамі, расказалі пра свае прыгоды. Італія становіцца для іх нібы цудоўным сном.

Тым не менш, трэба думаць, што гэтае падарожжа станоўча паўплывае на іх характары і погляды. Паўплывае па іх бацькоў. Ну хоць бы на адносіны да людзей Захаду — «капіталістаў», «носьбітаў буржуазнай маралі», «служак касцёла», якімі столькі часу нас страшыла бальшавіцкая прапаганда.

**Ірына КРЭНЬ.**

---

*Вацлаў ЛАСТОЎСКІ*

# КОЖНАМУ БЕЛАРУСУ

**III. БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Што такое народная мова?

Народная мова тая, на якой гаворыць увесь народ. Кожны народ мае сваю родную мову і на ёй усюды гаворыць. Родная мова — вялікае роднае багацце, якое народ павінен высока цаніць.

На чым лягчэй пазнаць, што мы беларусы?

Найлягчэй гэта пазнаць па нашай мове. Мова злучае людзей у адзін народ. Наша беларуская мова злучае больш 10 мільёнаў беларусаў у адзін народ.

Чаму мы гаворым па беларускай мове?

Бо яна наша родная, а кожны чалавек любіць сваю родную мову: немец — нямецкую, балгарын — балгарскую, а беларус — беларускую. І ўсё, што пекнае, што добрае, усе мудрасці свету — навуку, літаратуру — мы найлепей разумеем і любім, калі чуем на сваёй роднай мове. У сваім доме мы, бывае, мала бачым сваю любоў да нашай мовы, затое, будучы на чужыне, як толькі пачуем нашую мову, дык вельмі цешымся. Бо чалавеку наймілей чуць і гаварыць на сваёй роднай мове.

Мова наша захавала даўнейшы славянскі характар, яна — як маці ў славянскай сям'і моў; да яе, як дзеці да маткі, падобны ўсе славянскія мовы: маскоўская, сербская, чэшская, украінская, польская і інш. Але пры гэтым яна зусім самабытная мова, як і кожная іншая. Ворагі нашага народа лгуць, што мова наша не самабытная, калі кажуць: «гэта мешаніна маскоўскай і польскай». Так могуць гаварыць толькі нашыя зладумцы або цёмныя людзі. Шмат вучоных людзей розных народнасцей вучыліся на нашай мове і пісалі на ёй кнігі, і ўсе яны ў адзін голас кажуць, што мова беларуская — самабытная мова, такая ж славянская мова, як польская ці маскоўская.

Даўней наша мова была адной з самых культурных усходнеславянскіх моў: на ёй гаварылі князі нашыя, князі і вяльможы Вялікага княства Беларуска-Літоўскага ды каралі польскія.

У беларускай мове ў Вялікім княстве Беларуска-Літоўскім пісаліся ўсе законы, вяліся ўсе суды, адбываліся соймы і інш. З тых часоў захавалася многа дакументаў, кніг, грамат, і ўсе яны пісаны на чыстай беларускай мове.

Ці маюць беларусы сваю літаратуру (пісьменнасць)?

Мы, беларусы, маем сваю багатую пісьменнасць. Беларуская пісьменнасць старэйшая за польскую і маскоўскую. З усіх славянскіх народаў адны толькі чэхі мелі раней за беларусаў надрукаваную Біблію на сваёй мове.

| | | |
|---|---|---|
| Чэшская Біблія надрукавана | | ў 1488 годзе |
| Беларуская | « » | 1517 » |
| Украінская | « » | 1555 » |
| Польская | « » | 1561 » |
| Літоўская | « » | 1660 » |
| Маскоўская | « » | 1751 » |

Беларусы ў даўнейшыя часы мелі вельмі багатую пісьменнасць. У XVI стагоддзі былі напісаны і надрукаваны па беларускай мове ўсе законы, кнігі духоўныя (праваслаўныя, каталіцкія, уніяцкія і рэфармацкія), гістарычныя, навуковыя і ўсякія іншыя. Пасля наш народ занепаў, яго задушылі, заціснулі, і яго пісьменнасць заглушылі. Калі наша Бацькаўшчына трапіла пад Расію (Масковію), то і зусім забаранілі пісаць і друкаваць па-беларуску. Толькі ў 1905 годзе, у час расійскай рэвалюцыі, беларусы дамагліся права друкаваць кнігі на сваёй мове. За кароткі час ад 1905 года беларускія паэты і пісьменнікі напісалі многа цікавых кніжак, стварылі новую беларускую літаратуру. Цяпер беларусы маюць сваю новую літаратуру і шмат газет і часопісаў.

Ці беларуская мова адна на ўсёй Беларусі?

Адна на ўсёй Беларусі. Але як усе старадаўнія мовы, мае свае дыялекты. У нас ёсць шэсць дыялектаў, або гутарак: віцебская, смаленская, палеская, цэнтральная (менская), слуцкая, барысаўская.

Чаму іншыя беларусы стараюцца гаварыць на чужой мове замест сваёй?

*(Працяг будзе).*

# *Што там сёння ў Канадзе?*

*(Па старонках часопіса «Зважай», № 3, чэрвень, 1992)*

***Дзякаваць Богу, беларускія выданні за мяжой пачынаюць прыходзіць значна хутчэй, чымся было зусім нядаўна. Вось і чэрвеньскі нумар часопіса «Зважай» (выданне Камітэта сувязі былых беларускіх вайскоўцаў) быў па дарозе з Канады тры тыдні, калі меркаваць па паштовых штэмпелях. Пакуль, канешне, мнагавата, але, тым не менш,— прагрэс.***

***Зместам часопіс больш скіраваны на сучаснае жыццё беларускай эміграцыі ў Канадзе ды на яе сувязі з Бацькаўшчынай (немалое месца займае, напрыклад, матэрыял пра непаразуменні з кіраўніцтвам музычнага ансамбля з Беласточчыны «Дубіны»), але ёсць і публікацыі, якія прыцягнуць увагу тых, хто цікавіцца дзейнасцю жаўнераў Беларускай краёвай абароны ў часе Другой сусветнай вайны. Гэта частка нататак былога кадэта школы БКА, літаратара Кастуся Акулы. Пісаліся яны ў выглядзе дзённіка, на старонках школьнага сшытка на пачатку ліпеня і да канца жніўня 1944 года, але маюць пазнейшы аўтарскі каментарый або нават грунтоўныя дадаткі. Кожная з мініяцюр па-свойму цікавая — і «Дзённік», і «Мазурская бабулька смалой угашчае», і «Французы! О-ля-ля!», і «Дзе прапала Беларуская краёвая абарона?», але не будзем зараз пераказваць іхні змест, бо маем надзею на больш грунтоўную публікацыю. Справа ў тым, што ў канцы ліпеня спадар Кастусь Акула мае намер прыехаць на Бацькаўшчыну і абяцае наведаць рэдакцыю «Нашага слова», а мы — дамовіцца з ім пра літаратурнае супрацоўніцтва.***

***А цяпер падаём матэрыял з часопіса «Зважай», які зацікавіць тых, хто плануе падацца на заробкі за акіян.***

## ЦІ ЗАРОБІШ У КАНАДЗЕ?

Адтуль, дзе зарадзілася Супольнасць Незалежных Дзяржаваў, прысылаюць нам просьбы на тэму: вы ж — багатая краіна. Памажыце мне прыехаць да вас і падзарабіць. Буду выконваць найгоршую і найцяжэйшую працу. Сплачу вам усё належнае. Памажыце, людзі добрыя!

Кагадзе даявілося нам гаварыць з летувісамі і латышамі. У іх падобныя просьбы з ужо вольных і незалежных бацькаўшчынаў.

Нехта ў сваім лісце падбадзёрвае нас, што яму канадыйская амбасада ў Маскве прыабяцала візу туды, калі ён атрымае ад нас працу, забяспечанае памяшканне, страхоўку на лекі і інш.

Як выглядае з гэтага, нашыя бяздушныя бюракраты ў амбасадзе ў Маскве не інфармуюць людзей пра цяперашні эканамічны крызіс і беспрацоўе ў Канадзе. Безумоўна, яны адно выконваюць загады нашых нягеглых палітыкаў, што давялі вялікую і багатую краіну амаль да банкруцтва.

Другая ў свеце велічынёй тэрыторыі, Канада ў 1987 г. на 100 мільярдаў даляраў пераўысіла СССР валавой вартасцю індустрыяльнай і сельскагаспадарчай прадукцыі. У Канадзе жыве 27 мільёнаў людзей, а ў колішняй імперыі зла прынамсі ў адзінаццаць разоў больш. Маскоўшчына ў асноўным прадукавала прылады вайны і тэрору. Ейная ж індустрыяльная машына ўстарэла, шмат з яе трэба на хлам выкідаць. А той ГУЛАГ, які вымардаваў звыш 75 мільёнаў людзей, збанкрутаваў эканоміку, забяспечыў поўнае карыта адно для камуністычнае буржуазіі.

Эканамічны крызіс, побач з перадавымі індустрыяльнымі краінамі свету, трымае ў сваіх зненавіджаных клешнях і Канаду. Цяпер тут паўтара мільёна беспрацоўных. Летась на помач ім выдалі 17 мільярдаў даляраў. Федэральны доўг перавысіў ужо 400 мільярдаў даляраў, і кожны год толькі на сплату працэнтаў, а не капіталу, дзяржава выдае 30 мільярдаў. Загняздзіўся між нас і такі кавалак гумару: «Чаму плача ў Канадзе нованароджанае дзіця? — А таму, што яно толькі што нарадзілася, а ўжо вінаватае 25 тысяч даляраў». Аблічваюць, што прыблізна 60 працэнтаў зароблены табой грошай розныя ўрады забяруць на падаткі.

Тут не месца гаварыць пра прычыны такога эканамічнага крызісу. Галоўнае — усе вінаваціць нягеглых палітыкаў, каторыя ўжо цяпер пачынаюць скарачаць або ліквідаваць некаторыя... інстытуцыі сацыяльнае карысці.

Якраз просты, фізічнай працы цяпер тут і не знойдзеш. Свае і чужыя грашовыя арыстакраты пхнуць краіну ў камп'ютэрна-электронны век. А тым часам збянтэжаны народ, каторы заўсёды найбольш цікавіцца такеем і півам, у большасці сваёй не ведае, як і чаму палітычныя махляры загналі яго ў такія даўгі і эканамічны крызіс. І нам непрыемна адмаўляць некаму памагчы, а пры гэтым яшчэ і чырванець з сораму за паразітаў-бюракратаў і махляроў-палітыкаў.

## «ЧАСОПІС»

Выйшаў пяты нумар беластоцкага «Часопіса». З беларускамоўных матэрыялаў у ім друкуецца рэцэнзія Яўгена Міранoвіча на кніжку ўспамінаў «Віры» былога галоўнага рэдактара беластоцкай газеты «Ніва» Георгія Валкавыцкага. Рэцэнзент піша: «У пачатку 80-ых гадоў даводзілася мне пераглядаць гадавікі «Нівы» з мінулых эпох. Шмат чаго я не мог тады зразумець. Чаму, напрыклад, у 70-ых гадах на першых бачынах беларускага тыднёвіка былі здымкі, а пад імі гімны ў гонар эндэкаў, паўфашыстаў, антыбеларускіх шызафрэнікаў. І толькі цяпер, чытаючы ўспаміны Валкавыцкага, я зразумеў механізм стварэння такой літаратуры, якая даводзіла поўна да фур'і тадышніх больш інтэлігентных чытачоў «Нівы»... «І не дзіўна, бо такое ж адчуванне, відаць, узнікае і ў нас, калі мы гартаем шматлікія выданні тых застойна-застольных часоў, што выдаваліся ў нас на Беларусі. Да ўсяго і ў нас (мы ж лічылі, што за мяжой беларусы жывуць вольна), як і там, існаваў прынцып «раздзяляй і пануй». Яшчэ на пачатку 80-ых гадоў практыкавалася на Беласточчыне нацыянальная палітыка герэкаўскай эпохі, якая рэалізавалася пад лозунгам: «Няма ніякіх беларусаў», ёсць толькі «праваслаўныя», «тутэйшыя», а іх мова «простая».

З цікавасцю чытаецца інтэрв'ю з былым савецкім разведчыкам Джорджам Блейкам, які адначасова працаваў і на англійскія спецслужбы.

У «Часопісе» друкуецца разгорнутая анатацыя на новую кнігу айца Рыгора Сосны, якая выйшла «як своеасаблівы бібліяграфічны даведнік».

У выданні шмат іншай інфармацыі, цікавай для чытачоў, якія сочаць за жыццём беларусаў на Беласточчыне.

**В. Ш.**

*Чыталі?* *Чыталі?*

# РУЖАЎ БЕЗ КАЛЮЧАК НЕ БЫВАЕ

Беларуска-туркменскія літаратурныя сувязі маюць трывалую аснову. Яны завязаліся ў XIX стагоддзі, калі ўраджэнец Беларусі Аляксандр Ходзька пераклаў на англійскую мову эпас «Гёраглы» і тры вершы Махтумкулі. Што ж да перакладаў з беларускай літаратуры, то ў 1941 годзе ў Ашгабадзе пабачылі свет зборнікі твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Затым туркменскі чытач пазнаёміўся з кнігамі П. Броўкі, Я. Брыля, І. Шамякіна, В. Быкава, М. Танка, І. Чыгрынава, В. Лукшы, В. Якавенкі. Не засталіся няўдзячнымі і мы, беларусы. Двойчы выходзілі ў свет на беларускай мове туркменскія народныя казкі (пераклад Я. Бяганскай і С. Міхальчука) і дзве анталогіі туркменскага апавядання — «Каракумскія зоркі» і «Аксамітная ружа». Двойчы прыходзілі да беларускага чытача кнігі Б. Кербабаева. У серыі «Паэзія народаў СССР» (назва адпавядала існуючым дзяржаўным абсягам) выйшаў ёмісты зборнік Махтумкулі. Серыя «Проза народаў СССР» пазнаёміла беларусаў з Тыркішом Джумагельдыевым. Беларускія школьнікі атрымалі кнігі К. Тангрыкуліева, К. Чаліева, Н. Байрамава, Я. Піркуліева. І перад намі чарговае выданне твораў туркменскіх пісьменнікаў — «Кветкі Каракумаў» (укладальнікі А. Чарыярава і Л. Філімонава). Зазначым, што выданне багатае, ёмістае: 56 імёнаў паэтаў і празаікаў. Частку тома займае народная творчасць — прыказкі, прымаўкі, загадкі, народныя песні, калыханкі, казкі. Напрошваецца заўвага: чаму ў зборнік не ўключаны ўрывак з таго ж народнага эпасу «Гёраглы», твора, выдадзенага ў апрацоўцы Нуры Байрамава?

Адметнай рысай анталогіі туркменскай літаратуры з'яўляецца шырокае прадстаўніцтва ў ёй класічнай паэзіі — Махтумкулі, Сеідзі, Сеітназар, Маланепес, Мятаджы, Місгінклыч.

Чаго бракуе перакладам туркменскай паэзіі, дык гэта ашчаднага выкарыстання слова. Дзеля рыфмы, захавання рытму перакладчыкі робяць «адкрыцці», якія цяжка зразумець, здаецца, не толькі дзецям, але і дарослым: «той, хто не крылат», «на прагулцы, у разбегу вабіць захаплены зрок» і г. д. Як адкрыццё ўспрымаецца і пасадка елак у туркменскіх гарах, побач з чынарамі. А вось знаёмства з перакладам «Джапбакоў» Берды Кербабаева парадавала. Пераклад зроблены Генадзем Шупенькам.

Дваццаць дзве старонкі анталогіі адведзена ўрыўку з твора Бекі Сейтакава «Паэт». Гэта здзіўляе. Твор не адносіцца да дзіцячай літаратуры. А ўвогуле ў творчасці Бекі Сейтакава, якім бы знакамітым пісьменнікам ён ні быў, няма нічога такога, што б адрасавалася дзецям. Дык ці варта было яго ўключаць у анталогію дзіцячых твораў?

Некалькі слоў пра анталогію беларускай дзіцячай літаратуры на туркменскай мове пад назвай «Ачык асман» («Яснае сонейка»), якую ўкладалі Касым Нурбадаў і Алесь Емяльянаў. На 18 друкаваных аркушах пададзена творчасць 73 аўтараў. Фалькорных твораў і казак тут няма. Класічная літаратура прадстаўлена творамі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, П. Броўкі, П. Панчанкі, М. Танка, Я. Брыля, М. Лынькова. Сярод перакладчыкаў згаданых вышэй пісьменнікаў — Анаберды Агабаеў, Атанурад Атабаеў, Мамед Сеідаў, Ахмет Курбаннепесаў, Тыркеш Садыкаў, Джума Аманаў, Камек Куліеў. Амаль што ўсе літаратары вядомыя, іх дачыненне да перакладчыцкіх клопатаў і да Беларусі не выпадковае. І ўсё ж, калі весці гаворку пра пераклады беларускай класічнай паэзіі на туркменскую мову, згадваецца такі выпадак. Выданне беларускай дзіцячай літаратуры пазначана 1988 годам. Рукапіс жа падрадкоўнікаў (на расійскай мове) трапіў у Туркменію ўлетку 1987 года. Уявіце сабе, наколькі аператыўна (а значыць — і паспешліва) трэба было арганізаваць пераклады твораў, калі ў друкарню рукапіс анталогіі здалі ў лютым 1988 года. Спярша тэксты вершаў Купалы, Коласа, Цёткі і Багдановіча далі на пераклад народнаму паэту Туркменістана Керыму Курбаннепесаў. Ведаючы пра гэта, я тады пацікавіўся ў яго, як ідуць справы.

«...Мусіць, буду вяртаць... Хаця і хацелася б перакласці Багдановіча. Ды за месяц, за нейкіх трыццаць дзён гэта хіба магчыма?» — адказаў Керым Курбаннепесаў. Неўзабаве ён адмовіўся ад гэтай работы, так што якасць перакладаў твораў нашых пісьменнікаў сумніцельная.

І гэта сказаў паэт, які добра ведае беларускую паэзію і зрабіў бы ўсё як след. Яго пераклады «Паэмы сораму і гневу» Пімена Панчанкі, асобных вершаў Максіма Танка, Ніла Гілевіча сталі адметнай з'явай у туркменскай літаратуры, выклікалі вялікі чытацкі рэзананс.

На жаль, «Ачык асман» не знаёміць свайго чытача з многімі нашымі добрымі пісьменнікамі: яны ўвогуле не прадстаўлены ў анталогіі.

**А. КУТ.**

# Нататкі да некаторых пытанняў ...

**I. Запазычанні.** Як лінгвіст, свой допіс я хацеў бы пачаць менавіта з лексікі, і ў першую чаргу звярнуць увагу мовавелаў на запазычанні. Усё больш і больш замежных слоў, часта зусім не патрэбных, засмечваюць нашу мову. Да прыкладу: *спонсар*, а ў нас жа ёсць даўняе слова *фундатар; перапрашэнне* (ад польскага «пшэпрошэнне»), але ж у нас кажуць *выбачайце* або *прашу прабачэння; імідж — вобраз, воблік; урач* (ад расійскага «врач») — *доктар, лекар, доктарка, лекарка; вадзіцель* (з расійскай) або *кіроўца* (з польскай) — *шофер; мажліва* (з украінскай) — *магчыма; варункі — умовы; гарбата — чай; імбрык — чайнік* і г. д.

Лічу таксама шкоднай для мовы тэндэнцыю, калі мы падчас разняволення ад расійскага ўціску будзем згодныя ўжыць хоць польскае, хоць турэцкае слова, абы не расійскае. Так атрымалася са словам *чай*, засвоеным мовай: ад яго ўжо ўтварыліся вытворныя словы.

У правапісе запазычанняў прапаную захаваць літару *г* на пачатку слова-арыгінала, адмовіўшыся ад бессістэмнасці: *гістэрыка, гіпадром, гіерогліфы, гіерархія, гіпахондрыя* — як і ў выпадку з *гісторыяй*. Усе гэтыя словы з'яўляюцца запазычаннямі з адной — грэчаскай — мовы. Да таго ж літара *г* у згаданай пазіцыі мае месца бадай ва ўсіх еўрапейскіх мовах, не павінна быць выключэннем і беларуская.

Для далейшай унармаванасці нашай мовы лічу неабходным:

скасаваць суфікс -ый: *гэрбар, пралетар, сцэнар, парлямантар, архівар;*

словы тыпу *нонсенс, сервіс, секс, экстрасенс* пісаць праз *э*. Усе добра ведаюць, што прынцыпы беларускай мовы — як вымаўляецца, так і пішацца. Мы кажам і пішам *сэнс*, чаму ж тады *нонсенс* пішацца праз *е*? Сапраўды, нонсэнс;

пісаць *ў* пасля галоснай ва ўсіх словах: *фаўна, скаўты, саўна;*

у замежных словах *у* пасля галоснай пераходзіць у *ю*: *прэзідыюм, калёквіюм, калегіюм* — або знікае зусім: *вакум, індывід*. Словы, дзе націскное *у* стаіць на пачатку слова, набываюць перад ім літару *в* — *вунія;*

пісаць праз *э* словы: *інжэнер, трэвога, карэгаваць (карэгіраваць);*

увесці ў словах не беларускага паходжання паміж зычнымі літару *а*: *нэгар, Аляксандар, дубаль, мэтар*. Пад націскам можа быць *е* — *рубель;*

рашуча адмовіцца ад выбуховага *г*. Уводзіць асобную літару, каб пісаць некалькі польскіх, расійскіх ды іншых замежных слоў, якія ў нас ужо набылі беларускае гучанне — непатрэбная раскоша!

**II. Унармаванне нашай мовы.** Мяне даўно цікавіць, чаму ў нашай мове ёсць літара *ў* кароткае малое і няма *ў* кароткага вялікага? Няўжо мы будзем казаць *цётка Ўладзя* толькі таму, што ў мове да сённяшняга дня няма ўнармаванага *Ў*? Я прапаную ўвесці прапіснае *Ў*, а таксама пісаць *ў* пасля кожнай галоснай, незалежна ад знакаў прыпынку. Пасля іх выразна чуецца *ў*.

Нашы пісьменнікі і журналісты аддаюць перавагу словам з «русіфікатарскім» суфіксам *-цель:* пішуць не *вызваленец*, а *вызваліцель;* не *выхавальнік*, а *выхавацель;* не *заваёўнік*, а *заваявацель;* не *носьбіт*, а *насіцель;* не *просьбіт*, якое чамусьці падаецца з паметай уст., а *прасіцель*. Надзвычай актуальным становіцца выкарыстанне словаспалучэння *даверная грамата* замест *вярыцельная грамата*. І наогул, на сённяшні дзень у нашым друку можна сустрэць такія калькі з расійскай мовы: *нацыянальнасцей, дробязей, разгледжан і адобран, савет*. Няўжо так складана вярнуцца да беларускіх форм: *нацыянальнасцяў, дробязяў, разгледжаны й ухвалены, нарада*.

Словы беларускай мовы, якія называюць прафесіі жанчын, у адрозненне ад расійскай, дзе лічыцца за норму сказаць *учитель Петрова*, маюць свае суфіксы *-к-, -ц-: дакторка, настаўніца*.

**III. Стратэгічныя напрамкі нашай мовы.** Я згодны з тымі, хто выступае за вяртанне мовы ў Еўропу і за пераход на лацінскі шрыфт, якім у XVII стагоддзі карысталіся уніяты, а гэта, бадай, 75 працэнтаў насельніцтва Беларусі. Але далучэнне да Еўропы — гэта: мяккае *л* на пачатку і ў сярэдзіне пазычанага слова; ацвярдзенне асобных карэнных зычных у словах тыпу *мэтро, сфэра, прэзэнт, фанэтыка, сыстэма;* напісанне праз *т* слоў тыпу *катэдра, артаграфія*, бо незразумелыя тлумачэнні, што, маўляў, слова *катэдра* прыйшло да нас з расійскай мовы.

Не магу пагадзіцца з намкненнямі асобных «мовазнаўцаў» надаць усім назоўнікам у родным склоне множнага ліку поўныя канчаткі. Кароткую (нулявую) форму канчаткаў ніяк нельга лічыць уплывам расійскай мовы. Гэта — з'ява таксама і беларуская, і менавіта кароткая форма надае мове стройнасць і лёгкасць. Яскравае сведчанне — творы нашых паэтаў.

Браніслаў Тарашкевіч сцвярджаў, што суфікс *-ск-* пасля азванчэння праз *д* распадаецца на афрыкату *дз* і *к: грамадз-кі, лідз-кі*. Тое ж самае адбываецца і пасля літары *т*, калі ўтвараецца збег *ц* і *к: пірац-кі*. Тут корань захаваны. Калі ж нам прыняць напісанне выключна паводле фанетычнага прынцыпу: *Рыга — рыскі, Веліж — веліскі*, то мы пачнём карчаваць уласнае карэнне. Нядобрая гэта тэндэнцыя. Між іншым, тады ўжо трэба будзе пісаць *казьба, лёччык, хуччэй*. Які ж будзе корань?

Не варта і вынаходзіць нейкія новыя літары (графемы) замест *дз* і *дж* па вось якіх прычынах. Па-першае, у гэтых словах новай афрыкатай (графемай) будзе затушаваны корань, а па-другое, такія ж афрыкаты маюцца ў мовах нашых блізкіх суседзяў: летувісаў, палякаў, латышоў. Дастаткова афрыкат і ў іншых мовах, але не чуваць, каб там шукалі новыя літары.

Безумоўна, я цалкам за адраджэнне *ь* і пераход *е* ў *я* ва ўсіх перадналіскных пазіцыях, за ўнармаванне *й* пасля галосных.

Лічу мэтазгодным і практычным ставіць толькі кропку пасля лічэбнікаў ва ўскосных склонах, як гэта мае месца ў нямецкай мове, а не пісаць поўныя адпрыметнікавыя канчаткі: *пра 25. сакавіка, на 1. верасня*.

**IV. Герунд, плюсквамперфэкт ды іншыя...** Ёсць у нас шмат часцін мовы, пра якія ні нашыя вучні, ні, мусіць, складальнікі падручнікаў нават не здагадваюцца. Ёсць у нас англійскія герунд і інфінітыў, а таксама надобныя нямецкім тры формы мінулага часу: прэтэрыум, пэрфэкт, плюсквампэрфэкт.

Герунд азначае сам працэс дзеі і выражаецца назоўнікам: *напісанне, блуканне*. Характэрная прыкмета герунду ў англійскай мове — наяўнасць суфікса -інг-, а ў нашай мове — *-нне-* (*-ньне-*).

Толькі з палёгкай уздыхне наша мова пры сістэматычным ужытку інфінітыву. Параўнайце: *Маці загадала дачцэ, каб яна па дарозе наведала цётку* і *Маці загадала дачцэ наведаць па дарозе цётку*.

Што да трох форм мінулага часу, то першая, самая простая, — прэтэрыум. Яна нам добра знаёмая: *пайшоў, узяў, падвёз*.

Другая форма — гэта пэрфэкт. У нашай мове ён не развіты, бо адмерла звязка ёсць: — *Дзе Міхась? — А пайшоўшы некуды.* Гэта ёсць тыповы пэрфэкт: *Ён ёсць некуды пайшоўшы*. У наяўнасці ўсе кампаненты: звязка плюс дзеепрыслоўе.

Трэцяя форма — плюсквампэрфэкт — у нашай мове добра захавалася па сённяшні дзень ці не па ўсёй Беларусі, нягледзячы на моцны ўплыў расійскай мовы, дзе яго, лічу, няма зусім. Зірніце: *Калі я зайшоў да Зміцера, дома яго не было. Ён быў пайшоўшы ў краму.* Расіяне так не кажуць. (Міхаіл Задорнаў нават кпіць з гэтай формы ў сваіх маналогах). А форму *быў пайшоў, быў зрабіў, быў зламаў* я лічу знявечанай, таму што ў такім плюсквампэрфэкце адсутнічае важны абавязковы кампанент — дзеепрыслоўе.

На маю думку, гэтыя формы павінны быць распрацаваныя і адлюстраваныя ў школьных падручніках.

Алесь ЯЖЭВІЧ.

# Кароткі слоўнік эканомікі

АКСЕЛЕРАТАР. Не блытаць з акселератам! Паходзіць ад лацінскага «акцэлера» — паскараю. У эканоміцы — паказчык, які выкарыстоўваецца ў дзяржаўным рэгуляванні рынкавых адносін. Прынцып А. заснаваны на тым, што змяненне спажывецкіх расходаў выклікае змяненне ў назапашванні капіталу. Напрыклад, узрастанне спажывецкага попыту можа мець вынікам павелічэнне вытворчых магутнасцей. І наадварот, памяншэнне спажывецкага попыту на тавары можа настолькі скараціць прыбытак вытворцаў, што выкліча скарачэнне інвестыцый (укладанне сродкаў) у вытворчасць, нават на замену састарэлага абсталявання. Каафіцыент акселерацыі характэрызуе змяненне аб'ёму інвестыцый, якое выклікана ростам ці спадам вытворчых выдаткаў. У савецкай эканоміцы прынцып А. фактычна не прымяняўся.

АЎТАРКІЯ. Паходжанне слова грэчаскае. Самадастатковасць, самазабяспечанасць. У эканамічным сэнсе — стварэнне замкнутай, разлічанай на ўласныя магчымасці гаспадаркі ў межах асобнай дзяржавы, што вядзе да разрыву традыцыйных эканамічных сусветнагаспадарчых сувязей. Падобная з'ява звычайна наглядаецца тады, калі ўзнікае сур'ёзная небяспека нацыянальнай эканоміцы ад знешніх сіл.

*Называйце па-беларуску*

## Святаяннік

Святаяннік пачынае цвісці ў дзень Святога Яна, што адзначаецца пасля Купалля: сёння Купала — заўтра Ян... У кветках — пяць залацістых або жоўтых пялёсткаў з чорнымі рыскамі. Кветкі сабраны ў мяцёлчатыя суквецці. Лісце святаянніку невялікае, сядзіць на высокай з шматлікімі галінкамі круглай сцябліне. Лісткі яйкападобныя, часам эліпсападобныя, з вялікай колькасцю залозкаў, якія прасвечваюцца. Таму і здаецца, што лісце святаянніку дзіравае. На гэтую ўласцівасць звярнулі ўвагу і вучоныя, калі падбіралі расліне назву: *гіперыкум перфаратум*. «Гіперыкум» — ад грэчаскіх слоў «гіпер» — над, звыш, цераз і «эікон» — малюнак. «Перфаратум» у перакладзе з лацінскай азначае праколаны, дзірчасты. На Меншчыне святаяннік — *красная травіца*, на Гомельшчыне — *кроўка*. Гэтыя даўнія назвы захаваліся, відаць, таму, што сок святаянніку колерам нагадвае кроў. Калісьці з расліны рабілі фарбу, якой фарбавалі тканіны ў чырвоны колер.

Першыя звесткі пра святаяннік знаходзяць у грэчаскага лекара Гіпакрата. З таго часу папулярнасць гэтага зелля значна павялічылася, без яго не ўяўлялі лячэнне шматлікіх хвароб. Але апошнім часам святаяннік траціць сваіх аматараў, асабліва аматараў святаяннікавай гарбаты, з-за некарыснага ўздзеяння святаяннікавых рэчываў на некаторыя адметныя мужчынскія фізіялагічныя працэсы.

●

## Скрыпень

У хмызняках, паабапал дарог, у лесе, асабліва на пажарышчах і лесасеках, дзе можна бачыць цэлыя зарасці скрыпеню, вы лёгка пазнаеце гэтую расліну. Нельга не заўважыць яе высокае, часам у рост чалавека, сцябло з доўгімі, дзесяць-сорак сантыметраў, верхавіннымі гронкамі ружавата-пурпуровых кветак. Лісце скрыпеню вузкае, цёмна-зялёнае зверху і шызазялёнае знізу. На ніжняй частцы сцябла лісты сядзяць адзін насупроць другога, а вышэй — чаргаваныя. Менавіта лісце скрыпеню выкарыстоўваецца для лячэння, яго таксама ўжываюць у салатах.

Скрыпень — добры меданос, з аднаго гектара дае да 600 кілаграмаў мёду, зеленкавага, прыемнага на смак. Навуковая назва скрыпеню — *эпілобіум гірсутум — скрыпень касматы* (яго сцябло густа апушана валаскамі), *эпілобіум ангусціфоліум — скрыпень вузкалісты* (лісце паўсюдна чарговае; у слоўніку Зоські Верас ён называецца *залётнік*). Слова «эпілобіум» паходзіць ад грэчаскіх слоў «эпі» — на, «лобіон» — стручок. Такую назву ён атрымаў, відаць, таму, што насенне скрыпеню знаходзіцца ў тонкіх стручках, яно ўтрымлівае ядомы алей (40-45 працэнтаў агульнай вагі насення).

# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску



*Рубрыку вядзе* *Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

Франсуа Віён (1431 — пасля 1463 ) — найбольш самабытны французскі паэт позняга Сярэднявечча. Яго паэзія, напоўненая гаманою гарадскіх вуліц, плебейскай зухаватасцю, карчомнай нястрымнасцю, разам з тым вызначаецца глыбокім лірызмам, няспыннымі пошукамі новых творчых шляхоў.

*Франсуа* **ВІЁН**

**Балада ісцін навыварат**

Б'юць лынды — як пустое бруха,
Чакаюць звады — ад сяброў,
Найлепшая яда — баўтуха,
Лісліва́сць — шчырая любоў;
Ці ж варта ёсць без добрых сноў?
Раскажа хлус усё без зману,
Вар'ят — вось скарбнік мудрых слоў,
Разважны ж — толькі закаханы.

Пяшчотна любіць толькі шлюха,
Сумленны не аддасць даўгоў,
Спявае лепш за ўсіх рапуха,
Багаты любіць беднякоў.
Арэх лепш грызці без зубоў,
Злачынец варты ў нас пашаны,
Запальвае рахманасць кроў,
Разважны — толькі закаханы.

У спёку вые завіруха,
Спаць лепш за ўсё сярод клапоў,
Смяецца той, у каго скруха,
Каго б'е трасца — той здароў;
Парад чакаюць — ад аслоў,
Псуе нам шанцаванне планы;
Каб падтрымаць, крычаць: «Далоў!»
Разважны — толькі закаханы.

Вам ісціны патрэбны зноў?
Іх я паведаміць гатоў:
Ёсць грошы толькі ў жабракоў,
Пягоднік — рыцар без заганы,
Франт — той, хто ходзіць без штаноў,
Разважны — толькі закаханы.

**Чатырохрадкоўе, напісанае Франсуа Віёнам, асуджаным на смерць на шыбеніцы**

Я — Франсуа, на жаль, мой братка:
Шкада, што нарадзіла мяне матка,
Бо хутка ўжо ў імя парадку
Спазнацьме карак мой цяжар майго азадка.

**Пераклад з сярэднефранцузскай**
**Зміцера КОЛАСА.**

*Дэтэктыў. Прыгоды*

**А. КРЫСЦІ**

# Справа адной багацейкі

**(Апавяданне)**

*(Праця́г. Пачатак у № 28).*

Цяпер яна ляжала на сваім ложку.

Але ці яе гэта ложак? Нешта ён не такі, няма той чароўнай мяккасці, да якой яна так прывыкла. Яна паварушылася, ложак зарыпеў. Той, у якім місіс Раймер спала на Парк-Лэйне, ніколі не рыпеў.

Яна агледзелася. Не, ні ў якім разе... Гэта не Парк-Лэйн. Можа, бальніца? Не, падумала яна, не бальніца. І не гасцініца. Пусты пакой, сцены нейкага невыразнага бэзавага адцення. Драўляны сасновы ўмывальнік, са збанам і тазам.

Сасновая камода з бляшанай шуфлядай. На калках вешалкі нейкае незнаёмае адзенне. Ложак з латанай-пералатанай падшыванай коўдрай, а сама яна — у гэтым ложку.

— Дзе я? — запыталася місіс Раймер.

Дзверы адчыніліся, у пакой таропка ўвайшла пухлявая маленькая жанчына, чырванашчокая і дабрадушная з выгляду. Рукавы сукенкі падкасаныя, зверху фартух.

— Ага! — усклікнула жанчына.— Яна прачнулася! Уваходзьце, доктар.

Місіс Раймер хацела была нешта сказаць, але перадумала, бо чалавек, які ўвайшоў следам за пухлявай жанчынай, зусім не падобны быў на элегантнага чарнявага доктара Канстанціна. Перад ёю быў згорблены стары. Вочы закрывалі тоўстыя шкельцы акуляраў.

— Вось гэтак лепш,— сказаў ён, падышоўшы да ложка і ўзяўшы руку місіс Раймер.— Неўзабаве вам стане лепш, даражэнькая.

— Што са мной было? — спыталася місіс Раймер.

— Нешта накшталт апаплексічнага ўдару. Вы знаходзіліся ў непрытомнасці дзень або два. Нічога сур'ёзнага.

— Ну і напужалі вы нас, Ганна,— сказала жанчына.— Трызнілі, гаварылі дзіўныя рэчы.

— Місіс Гарднер,— перабіў яе доктар.— Нельга хваляваць хворую. А вы хутка паправіцеся, даражэнькая.

— Накошт работы не турбуйцеся, Ганна,— сказала місіс Гарднер.— Мне дапамагала місіс Робертс, і мы нядрэнна ўправіліся. Ляжыце сабе спакойна, папраўляйцеся, любачка.

— Чаму вы завеце мяне Ганнай?— спыталася місіс Раймер.

— Як жа, гэта ж ваша імя!— здзівілася місіс Гарднер.

— Не, не маё. Мяне завуць Амеліяй. Я — Амелія Раймер. Місіс Эбнер Раймер.

Доктар і місіс Гарднер пераглянуліся.

— Добра, добранька, толькі ляжыце спакойна,— сказала місіс Гарднер.

— Так, так, не хвалюйцеся,— дадаў доктар.

Яны пайшлі. Чаму яны завуць яе Ганнай? Навошта перакінуліся позіркамі, у якіх яна прачытала спагадлівае здзіўленне. Дзе яна? Што з ёю?

Яна ўстала з пасцелі, паволі падышла да маленькага мансардавага акенца і выглянула. Вясковы двор! Канчаткова заінтрыгаваная, яна зноў лягла ў пасцель. Што прывяло яе на ферму, якую яна ніколі і ў вочы не бачыла?

У пакой зноў увайшла місіс Гарднер. Яна трымала паднос, на якім стаяў кубак з булёнам.

— Як я апынулася ў гэтым доме? Хто мяне сюды прывёз?

— Ніхто вас сюды не прывозіў, любачка. Тут ваш дом. Вы ў ім жывяце апошнія пяць год...

— Я жыву тут пяць год? Цэлых пяць год?

— Так. І ведаеце мяне.

— Я тут ніколі не жыла! Вас я ніколі не бачыла!

— Зразумейце, вы хварэлі і ўсё забылі.

— Тут я ніколі не жыла!

— Ну што вы, любачка, гэта ж ваш дом!—

Місіс Гарднер раптам кінулася да камоды і падала місіс Раймер выцвілую фатаграфію ў рамцы.

На фатаграфіі было чацвёра: барадаты мужчына, поўная жанчына (місіс Гарднер), высокі цыбаты дзядзюх з прыемнай сарамлівай усмешкай і нехта ў паркалёвай сукенцы з фартухом. Ды гэта ж яна, Раймер!

Місіс Раймер з вялікім здзіўленнем разглядвала фатаграфію. Місіс Гарднер паставіла паднос з булёнам побач з яе ложкам і ціхенька выйшла.

Місіс Раймер піла маленькімі глыткамі з кубка. Булён быў добры, наварысты, гарачы. Хто тут вар'ят? Місіс Гарднер ці яна? Нехта з іх абавязкова. Аднак ёсць яшчэ і доктар!

— Я — Амелія Раймер,— цвёрда рашыла яна.— Упэўнена, што я Амелія Раймер, і хай мне хто-небудзь скажа, што гэта не так!

Выпіўшы булён, яна паставіла кубак на паднос. Яе ўвагу прыцягнула газета. Яна ўзяла газету і зірнула на дату → 19 кастрычніка. Калі ж гэта яна пайшла ў кантору да містэра Паркера Пайна? Пятнаццатага альбо шаснаццатага. Значыць, яна хварэе тры дні.

— Прайдзісвет! — раззлавалася яна на доктара.

Усё ж ёй стала крыху лягчэй. Яна чула пра выпадкі, калі на многа год людзі забываліся, хто яны такія. І баялася, што, можа, нешта падобнае здарылася і з ёю.

Яна пачала перагортваць старонкі газеты, ленавата прагладаючы калонкі, як раптам адна заметка кінулася ёй у вочы:

«Учора ў прыватнае завядзенне для псіхічна хворых была дастаўлена місіс Эбнер Раймер, удава Эбнера Раймера — «гузікавага караля». Апошнія два дні яна ўпарта сцвярджала, што яна не Раймер, а прыслуга па імені Ганна Мурхаус».

— Ганна Мурхаус! Вось яно што! — сказала місіс Раймер.— Яна — гэта я, а я — гэта яна. Нешта накшталт двайніка. Ну, гэта можна хутка паправіць! Калі той лісліві ашуканец Паркер Пайн задумаў нейкія хітрыкі ці...

Але тут на вочы трапіла прозвішча: Канстанцін, і яна пачала чытаць:

«Заява доктара Канстанціна.

На развітальнай лекцыі, якую доктар Канстанцін прачытаў учора, напярэдадні свайго ад'езду ў Японію, ён прапанаваў некалькі надзвычайных тэорый. Ён заявіў, што ёсць магчымасць даказаць існаванне душы шляхам перамяшчэння яе з аднаго цела ў другое. У працэсе сваіх эксперыментаў на Усходзе яму ўдалося, як ён сцвярджаў, ажыццявіць двайное перамяшчэнне — душа загіпнатызаванага цела А была перамешчана ў загіпнатызаванае цела Б, а душа Б — у цела А. Пасля абуджэння ад гіпнатычнага сну А заявіла, што яна Б, а Б прыняла сябе за А.

Каб эксперымент удаўся, неабходна знайсці двух індывідуумаў, вельмі падобных адзін да аднаго. Неабвержным фактам з'яўляецца тое, што два чалавекі, якія падобны адзін да аднаго, з'яўляюцца гарманічнымі істотамі. Гэта асабліва наглядна заўважалася ў выпадку з двайнятамі, аднак, і два чужыя чалавекі, якія рэзка адрозніваліся сваім сацыяльным становішчам, але вылучаліся незвычайным знешнім падабенствам, праявілі такую ж гармонію».

Місіс Раймер адкінула ад сябе газету.

— Нягоднік! Падлюга! Прайдзісвет!

Цяпер яна ўсё зразумела. Яны пакваліліся на яе грошы! Гэтая Ганна Мурхаус — марыянетка ў руках Паркера Пайна. Разам з гэтым прайдзісветам Канстанцінам ён ажыццявіў неверагодны трук.

Але яна выкрые яго! Яна пакажа ўсяму свету яго сапраўдны твар! Засудзіць яго! Усім раскажа...

Але тут місіс Раймер успомніла першую заметку. Не, Ганна Мурхаус не была паслухмянай марыянеткай. Яна пратэставала, гаварыла, хто яна на самай справе. А які вынік?

— Запхнулі ў вар'яцкі дом бедную дзяўчыну,— сказала місіс Раймер. Халадок прабег па спіне.

Вар'яцкі дом... Адтуль ніколі не выпускаюць. Чым больш гаворыш, што ты ў сваім розуме, тым менш даюць табе веры. Не, місіс Раймер на гэта не пойдзе.

Дзверы адчыніліся і ўвайшла місіс Гарднер.

— А-а, вы ўжо выпілі булён, любачка. Вось і добра. Хутка паправіцеся.

— Калі мне зрабілася дрэнна?

— Дайце прыпомню... Тры дні таму назад — у сераду. Пятнаццатага. Вам стала нядобра каля чатырох гадзін.

Якраз у гэты час місіс Раймер увайшла ў пакой доктара Канстанціна.

— Вы ўскрыкнулі: «Вой!» Вось гэтак: «Вой!» А потым сонным голасам: «Я засынаю. Засынаю». І на самай справе заснулі. Мы паклалі вас у ложак і паслалі па доктара. З таго часу вы тут і ляжыце.

— Я думаю,— нарэшце адважылася місіс Раймер,— у вас няма ніякіх спосабаў дазнацца, хто я... акрамя, можа, як па твары.

— Дзіўныя вы рэчы гаворыце! Што ж можа пасведчыць у такім выпадку лепш за твар чалавека, хацела б я ведаць? Пасля — у вас яшчэ ёсць радзімка.

— Радзімка? У мяне ніколі іх не было!

— Радзімка пад левым локцем,— сказала місіс Гарднер.— Паглядзіце самі, любачка.

— Вось зараз і праверым.— Місіс Раймер закасала рукаў сваёй начной сарочкі, убачыла радзімку і заплакала.

Прайшло чатыры дні, і місіс Раймер паднялася з пасцелі. Яна прыдумала некалькі планаў, каб дзейнічаць, але, урэшце, усе іх адкінула.

Яна магла б паказаць доктару і місіс Гарднер заметку ў газеце і ўсё ім растлумачыць. Але ці павераць яны? Місіс Раймер была ўпэўнена, што не павераць.

Можна пайсці проста ў паліцыю. Але хіба там дадуць ёй веры? І зноў вырашыла, што не.

*(Працяг будзе).*

# «Скамба, скамба, канкле»



Семнаццаты раз сустракала Вільня гасцей фестывалю «Скамба, скамба, канкле» («Грайце, грайце, гуслі»), які праходзіў 28—31 мая. Фестываль даўно ўжо ператварыўся ў міжнароднае свята фальклору.

Высокім выканаўчым майстэрствам былі адзначаны канцэрты, у якіх бралі ўдзел калектывы краін Балтыі, Беларусі, Швецыі, Швейцарыі, Украіны, Нарвегіі, Польшчы, Італіі.

Нашу краіну мелі гонар прадстаўляць фальклорны гурт «Ліцвіны» і майстры-музыкі Алесь Лось і Хведар Кашкурэвіч. Дуды, зробленыя самімі выканаўцамі, выклікалі вялікую цікавасць гледачоў — падобнага інструмента раней на святах не чулі і не бачылі.

На вечарыне ў тэатральнай зале універсітэта госці мелі магчымасць пазнаёміцца з літоўскім інструментам — канкле, аналагам латышскага кокле і нашых гусляў. Гаспадары вечарыны — фальклорны гурт Віленскага педагагічнага інстытута — паказалі не толькі ўсё гукавое багацце канкле, але і спевы, танцы пад своеасаблівае мяккае гучанне інструмента.

Апошні дзень фэсту праходзіў на Замкавай вуліцы Старога горада, дзе адбыўся вялікі кірмаш, і ва ўнутраных дворыках універсітэта — там выступалі розныя калектывы. А скончылася свята ў Нагорным парку, дзе да паўночы пад вясёлую музыку танцавалі тысячы людзей.

**Вікторыя МАЛЫШАВА.**





НА ЗДЫМКАХ: музыкі **Хведар КАШКУРЭВІЧ** і **Алесь ЛОСЬ**; вясёлую польку выконвае калектыў з Эстоніі «Алле-аа».

**Фота А. ВАШКЕВІЧА.**

## Весткі з Віленшчыны

Адным з лепшых гурткоў (факультатываў) па вывучэнні роднай мовы, літаратуры і культуры ў Вільні з'яўляецца гурток у сярэдняй школе № 32, дзе заняткі вядзе настаўніца пачатковых класаў Матусевіч Марыя Міхайлаўна, яна ж і старшыня Віленскай арганізацыі таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Тут займаецца 15 дзетак-беларусаў.

13 мая г. г. адбыліся выніковыя заняткі ў гуртку. Дзеці паказалі, чаму навучыліся за год. Апранутыя ў нацыянальныя касцюмы, яны спявалі беларускія народныя песні, чыталі вершы і танцавалі «Крыжачок», увогуле весяліліся, бо іх здымалі на тэлебачанні. (ЛТ — беларуская праграма, якую вядзе Т. Дубавец). Зала, у якой адбывалася ўрачыстасць, была ўпрыгожана нацыянальнымі ручнікамі, сцягам, гербам Беларусі і кветкамі. Святочны настрой адчувалі не толькі дзеці, але і ўсе тыя, хто прысутнічаў у зале. 23 мая па літоўскай праграме дзеці глядзелі свае выступленні і цешыліся. Задаволены былі і іх бацькі.

У наступным навучальным годзе з дапамогай ТБМ імя Ф. Скарыны плануецца ў рускамоўных школах Вільні адкрыць гурткі і факультатывы па вывучэнні беларускай мовы. Пакуль што яны арганізаваны ў трох школах горада.

**Юрась ГІЛЬ,**
**сакратар ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю.**




***Працягваем друкаваць рэцэпты па мёдалячэнні. На гэты р[illegible] рэкамендацыі народнай медыцыны «пчолы — касметыка».***

**1. Сумесь для ўмацавання валасоў.**

Да чатырох частак кашкі з надранай на цёрцы цыбулі дадаць адну частку мёду. Сумесь уцерці ў карэньчыкі валасоў, затым адзець на галаву гумавую шапачку або поліэтыленавы пакет. Праз 30 мін. змыць кашку цёплай вадою. Калі валасы перасушаныя, то да сумесі дабавіць крыху алею (лепш аліўкавага) і праз 1 гадзіну вымыць з мылам або шампунем.

**2. Сумесь для лячэння абяскoлераных, перасушаных валасоў.**

Адну сталовую лыжку мёду і па чайнай лыжцы рыцыны і соку алоэ перамяшаць і ўцерці ў скуру галавы. Праз гадзіну валасы вымыць і апаласнуць адварам рамонку або крапівы, а затым чыстай вадою. Працэдуру рабіць 1—2 разы на тыдзень да таго часу, пакуль валасы не стануць эластычнымі. Рэкамендуецца і пасля хімічнай завіўкі.

**3. Мядовы шампунь для змякчэння валасоў.**

30 г аптэчнага рамонку заліць 100 г кіпетню і настойваць на працягу 1 гадзіны, працадзіць і дабавіць 1 дэсертную лыжку мёду. Вымыць валасы, выцерці іх ручніком і добра намачыць растворам. Праз 40—60 мін. вымыць у цёплай вадзе без мыла.

***Пажыўныя крэмы, прыгатаваныя на мёдзе.***

Яны наносяцца на чыстую скуру рук і твару тонкім слоем. Пры расшырэнні крывяносных капіляраў ужываць не рэкамендуецца.

1. Расцерці 1 сталовую лыжку сметанковага масла з 1 чайнай лыжкай мёду і 1 сталовай лыжкай кашкі з ягад рабіны (можна з яблыка, ігрушы, слівы, айвы, хурмы). Праціраць твар перад сном.
2. 100 г мёду перамяшаць з такой жа колькасцю міндальнага алею. Праціраць твар.
3. Да 100 г мёду дабавіць 100 г міндальнага алею і 1 г саліцылавай кіслаты. Праціраць твар.
4. Абсівераныя вусны на 20 мін. змазваць мёдам.



### ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА

***II Выбранецкі летнік адбудзецца 3—17 жніўня 1992 г. Умовы правядзення — аналагічныя I летніку.***

***Прыкладны маршрут: Полацак — Расоны — возера Няшчарда — в. Краснаполле — заход на Пскоўшчыну — Езярышча — Полацак.***

***Адказны за правядзенне Андрусь Клюкін (тэл. у Менску 61-82-13, да 22.00). Просім даслаць заявы па прыкладзенаму ўзору да 20 ліпеня г. г. альбо паведаміць пра цвёрды ўдзел у летніку па тэлефоне і прывезці заяву з сабой. Школьнікам абавязкова пісьмовы дазвол бацькоў!***

***Просім таксама паведаміць пра магчымую Вашую дапамогу ў правядзенні летніка.***

***Выбранецкая ўправа.***

***Анатоль ЦЫРКУНОЎ***

## Пра голага караля

Кароль і голы можа жыць гады,
Ён толькі смеху варты,
Калі ў падданых голыя зады.
Вось гэта ўжо — не жарты...

## Катавасія

Каб знішчыць «ворагаў народа»
(А быў іх не адзін мільён),
Знайшлася брыдкая парода,
Імя забойцам — легіён.
Але як толькі праявілі
Забойцы талент забіваць,
Гульню прыдумаў Джугашвілі —
Стаў ката катам катаваць...



**Наш адрас: 220005,** г. Менск, **вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 6993 паасобнікі Зак. 1187. Індэкс 63865.